**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 20 (736) 15 траўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Сход у Вайшкунах выказаўся супраць будаўніцтва царквы.**
Працяг тэмы на стар.4.
*Фота Змітра Лупача.*

Чашніцкі раён

## Даніна памяці герою

■ Станіслаў Раманчук

**Нездарма сцвярджаюць, што любая вайна заканчваецца толькі тады, калі будзе знойдзены і пахаваны апошні загінуўшы на ёй воін.** Да нядаўняга часу і родныя гвардыі радавога Васіля Хобатава з Чашніцкага раёна думалі, што іх родны чалавек загінуў вясной 1945 года падчас вельмі жорсткіх баёў пад Кенігсбергам. Яго імя было высечана на мемарыяле воінскай славы паблізу цяперашняга Калінінграда. Аднак дзякуючы мясцоваму расійскаму пошукаваму атраду "Сокал" астанкі мужнага воіна-гвардзейца, яго асабістыя рэчы і ўручаны беларусу медаль "За адвагу" знайшлі паблізу пасёлка Пяцідарожнае. На шчасце, пры дапамозе беларускага пасольства ўдалося адшукаць родных салдата на Віцебшчыне і было вырашана перавезці яго астанкі на радзіму. Напярэдадні Дня Перамогі труну з прахам воіна даставілі спачатку ў райцэнтр, дзе ля брацкай магілы воінаў і партызан прайшоў жалобнаўрачысты мітынг. Знайшоў вечны спакой чырвонаармеец Васіль праз 70 гадоў пасля сваёй гібелі ў роднай зямлі, а кіраўнік пошукавай арганізацыі паведаміў яго дачцы і двум унучкам, што салдата забіў прамым падаеннем нямецкі рэактыўны снарад і моцна засыпаў пяском. Воіна-вызваліцеля пахавалі побач з магілай яго жонкі на сялянскіх могілках вёскі Дземідовічы. Жанчына ўдава тады, па ўспамінах суседзяў, вельмі моцна гаравала, бо да заканчэння той крывапалітнай вайны заставаліся лічаныя тыдні. Дарэчы, наколькі жудаснымі былі бітвы Айчыннай вайны засведчыў і чарговы факт абнаружэння на беразе ракі Заронаўка паблізу абласнога цэнтра за пару дзён да 9 мая адразу 73 авіябомб той пары. Смертаносную знаходку абясшкодзілі ваенныя сапёры.

Пастаўскі раён

## Спад стаў зацяжным

■ Кастусь Александровіч

**Вытворчасць малака і мяса застаецца асноўнай задачай гаспадарак Віцебшчыны, хоць кіраўніцтва вобласці за кошт празмернага павелічэння пасяўных плошчаў імкнецца павялічыць намалоты збожжа ў рэгіёне.**

Аднак пры гэтым эфектыўнасць гаспадарання падае і прыйшлося за апошнія 3 гады рэарганізаваць больш 60 дабітых да ручкі калгасаў. Не абмінулі падобныя цяжкасці і буйны Пастаўскі раён, дзе ў разгар пасяўной знялі з пасады дырэктара райаграсервіса. Перад гэтым, праўда, прыйшоў новы талковы кіраўнік у мясцовы філіял "Нафтазаводмантаж-агра". Аднак ужо трэці год запар на Пастаўшчыне працягваецца спад у жывёлагадоўлі, хоць правялі рэканструкцыю больш дзясятка ферм. Яшчэ летась у 7 гаспадарках краю з 14 дзеючых з-за нізкіх надояў і дрэннага кармлення жывёлы гэта галіна стала нерэнтабельнай. Напрыканцы года і ў іншых калгасах, дзе мала сабралі зерня, пачаліся праблемы з выплатай заробкаў, вырашэннем надзённых задач. Аднак і сёлета спыніць спад вытворчасці не ўдалося, бо ў тым жа райаграсервісе на яго фермах і ў СВК "Андроны" сутачныя прывагі бычкоў склалі меней 150 грам. У цэлым гаспадаркі краю меней амаль на 500 тон прадалі мяса ў 1-м квартале, чым год назад. Сітуацыя па малаку яшчэ больш сумная, бо прыросту надояў дабіліся толькі 3 сельгаспрадпрыемствы. У аднолькавых умовах яшчэ летась іх надоі на карову перавышалі ў 2-3 разы паказчыкі групы адстаючых. На малзавод з "Блакітных азёр-агра" за квартал паступіла сёлета толькі 70 тон сыравіны, а на карову атрымалі ўсяго па 135 літраў малака, што значна меней, чым ад звычайнай казы.

Браслаўскі раён

## А дома спакайней

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэтым годзе, відавочна, што амаль для паўмільёна беларусаў летні адпачынак у Крыме не адбудзецца.**

Не кожны адважыцца паехаць і на іншыя замежныя курорты, дзе пачасціліся розныя здарэнні з адпачываючымі. З гэтай нагоды парадавалі ў Браслаўскім раёне, што на самы спрыяльны перыяд года большасць пуцёвак на мясцовыя базы адпачынку, кемпінгі і аграсядзібы ўжо раскупілі загадзя. Многія суайчыннікі ведаюць, што азёрны край – цудоўнае месца найперш для воднага турызму. Яшчэ за савецкім часам на турбазе "Браслаўскія азёры" сталі арганізоўваць водныя паходы, а сёлета тут правялі рамонт сталовай для адпачываючых. Тых, хто любіць правесці вольны час на рыбалцы, аблюбавалі мясцовую базу адпачынку "Лявошкі", дзе з'явілася некалькі новых бунгала для гасцей. Пасля стварэння мясцовага Нацыянальнага парку менавіта ён найбольш актыўна стаў займацца развіццём зон адпачынку. Сёлета тут пачалася таксама праца па стварэнні яшчэ аднаго сафары-парку плошчай 1200 гектараў, аналагічнага створанаму ўжо на Палессі. У гэтым годзе пачнецца засяленне новых жывёл,ад аленяў да муфлонаў, якіх вырашылі купіць. Першая зіма для жывёлін будзе каранцінам, а потым наступнай вясной сюды будуць пускаць жадаючых паназіраць і сфатаграфаваць са спецыяльных вышак за жыццём у дзікай прыродзе. Для турыстаў пачалі набіваць і квадрацыклы для падарожжаў па азёрным краі. Для заможных гасцей неўзабаве адчыніцца трозорквавая гасцініца на 60 месц, а расійскі інвестар пачаў узводзіць у азёрным краі яшчэ адну базу адпачынку "Лясная паляна". У самім райцэнтры пачалося добраўпарадкаванне знакамітай Замкавай гары, дзе запланаваны аглядавыя пляцоўкі.

# Аб самым надзённым

## ШЧЫРАЯ МУЖЧЫНСКАЯ РАЗМОВА ЛІДАРАЎ ТРОХ КРАІН У МІНСКУ ТАК І НЕ ЗАВЯРШЫЛАСЯ ПАТРЭБНЫМІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ВЫНІКАМІ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Прыйшла і прыемная навіна аб тым, што з пачаткам лета беларусы дамовіліся з туркамі аб узаемнай адмене ўязных віз. На турэцкіх курортах мы можам знаходзіцца месяц, а на працягу года 90 дзён без афармення дакументаў.**

Яшчэ да нядаўняй сустрэчы ў беларускай сталіцы лідараў трох дзяржаў ствараемага Еўразійскага эканамічнага саюза былі спадзяванні, што ў Мінску ўдасца ім дамовіцца і вырашыць усе праблемныя пытанні. Спачатку прэзідэнты перад пачаткам сустрэчы былі вясёлыя, потым амаль 3 гадзіны правялі ў перамовах у неафіцыйнай абстаноўцы, але так аб галоўным і не дамовіліся. Пасля завяршэння гэтага, па сутнасці правальнага саміта, не адбылося сумеснай прэс-канферэнцыі і адзінае, у чым знайшлі яны паразуменне, сустрэцца зноў праз месяц напрыканцы мая ўжо ў Астане.

Аднак загвоздка, як вядома, у тым, што ключавыя для нас пытанні выплат нафтавых пошлін з Расіяй і лібералізацыі рынку аўтаперавозак засталіся нявырашанымі. А. Лукашэнка зусім справядліва не разумее, чаму Крэмль не ідзе на стварэнне раўнапраўнага эканамічнага саюза без абмежаванняў і канфіскацый ва ўзаемным гандлі. Адначасова наша ўсходняя суседка ўсё болей становіцца падобнай на ранейшую імперыю зла. Афіцыйная Масква з-за падтрымкі незаконных узброеных фарміраванняў ва Украіне можа неўзабаве атрымаць з Захаду трэці пакет вельмі балючых для расійскай эканомікі санкцый.

Як бы рускія ні храбрыліся, але яны цяпер вымушаны лічыць кожны свой рубль і зароблены за газ з нафтай долар. З эканомікі Расіі ўжо не спыніць бегства капіталу і непаступленні інвестыцый, а самае страшнае для рускіх, што "Газпрам" ужо адчувае падзенне попыту на блакітнае паліва з боку еўрапейцаў. Вось і наша заходняя суседка Польшча не падтрымала расійскі варыянт будаўніцтва другой ніткі газаправода Ямал-Еўропа. Тыя ж палякі ўжо думаюць значна скараціць закупкі рускага газу, альбо зусім ад яго адмовіцца і зрабіць стаўку на ўласны сланцавы газ, якога ім хопіць на 65 гадоў.

Вось чаму пуцінскі ўрад не гатовы адмяніць для беларусаў з новага 2015 года экспартныя нафтавыя пошліны, бо расійскі бюджэт недалічыцца больш 30 мільярдаў долараў.

На працягу гэтага месяца цяпер беларускія і расійскія эксперты з савета Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) вядуць кансультацыі ў сферы далейшых паставак нафты і яе перапрацоўкі на пераходны перыяд да 2025 года. Безумоўна, дамовіцца па гэтым пытанні будзе вельмі складана, калі ўвогуле магчыма. У лепшым выпадку рускія аддадуць нам, да прыкладу, нейкую ¼ частку экспартных пошлін, альбо паабяцаюць далейшую падтрымку перад наступнымі прэзідэнцкімі выбарамі льготнымі крэдытамі.

Малаверагодна, што беларускі лідар у Астане не падпіша трохбаковы дагавор аб стварэнні ЕЭС, бо занадта рызыкоўна і далей нерваваць цяперашняга валадара Крамля на хвалі яго папулярнасці сярод суайчыннікаў пасля аншлюса Крыма. Беларускае кіраўніцтва і так прызнае, у адрозненне ад Масквы, законнымі новыя ўлады ў Кіеве, выступае супраць федэралізацыі (лічы раскколу Украіны) і выказвае спачуванні яе лідару А. Турчынаву з нагоды трагічных падзей у шэрагу ўкраінскіх рэгіёнаў. У нас не гучаць выразы аб "украінскай хунце, клікe, генацыдзе, карацельнай аперацыі" і заклікі палітыкаў "знішчыць фашысцкую гадзіну". А. Лукашэнка прыгразіў мясцовым апантаным прыхільнікам сепаратызму і "каларадскай сімволікі", што будуць іх у Беларусі лічыць дыверсантамі, калі яны паднімуць галаву.

І гэта правільна, як і тое, што казахі таксама значна ўзмацнілі крымінальную адказнасць за сепаратысцкую дзейнасць у сваіх абласцях, дзе багата пражывае рускіх. Зрэшты, да 29 мая часу засталося няшмат і хутка стане вядома, чым завяршыцца чарговы саміт тройкі ў Астане. Аднак ужо цяпер відавочна, што чэснай справядлівай інтэграцыі чамусьці не атрымоўваецца, фарміраванне агульнага рынку адкладваецца на 10-15 гадоў. Тым часам беларускае знешнепалітычнае ведамства настойліва рэкамендавала сваім суайчыннікам адмовіцца без крайняй неабходнасці ад паездак ва Украіну.

Прыйшла і прыемная навіна аб тым, што з пачаткам лета беларусы дамовіліся з туркамі аб узаемнай адмене ўязных віз. На турэцкіх курортах мы можам знаходзіцца месяц, а на працягу года 90 дзён без афармення дакументаў. З Еўрасаюзам будуць новыя перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму. Вось такая шматвектарная знешняя палітыка радуе ўсіх. І канешне ж, кожнаму з нас хацелася б ганарыцца сваёй дзяржавай у цэнтры Еўропы і адчуваць сябе паўнацэннымі грамадзянамі, бо сапраўды, мы – не рускія, мы – беларускія!

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 15.05.14 | | | | Пятніца 16.05.14 | | | | Субота 17.05.14 | | | | Нядзеля 18.05.14 | | | | Пн.19.05.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +12 | +16 | +12 | +9 | +10 | +11 | +10 | +9 | +10 | +11 | +10 | +12 | +14 | +17 | +16 | +13 | +16 | +21 |
| Ціск | 753 | 754 | 755 | 755 | 755 | 755 | 754 | 754 | 752 | 751 | 749 | 747 | 746 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 93 | 75 | 54 | 64 | 68 | 68 | 78 | 89 | 82 | 76 | 81 | 94 | 95 | 93 | 84 | 87 | 96 | 88 | 62 |
| Вецер м/сек | 4 С-В | 5 С-В | 7 С-В | 7 С-В | 8 С-В | 7 С-В | 6 С-В | 6 С-В | 5 С-В | 6 С-В | 9 С-В | 8 С-В | 6 В | 4 В | 5 В | 4 Ю-В | 3 В | 1 В | 2 С-В |

## Дзень за днём

**Еўразійскі эканамічны саюз вязне ў гаварыльні, агульны рынак нафты і газу будзе сфарміраваны толькі да 2025 года. А. Лукашэнка пакуль прайграў Крамлю барацьбу за "справядлівую" інтэграцыю, бо РФ не хоча пазбавіцца 33 млрд. долараў сваіх нафтавых даходаў. З-за падзення адгрузак прадукцыі ў Расію ў складаным становішчы апынулася адна з вядучых швейных фабрык краіны "Мілавіца". У Беларусі да 1 ліпеня аб'явілі амністыю для ўладальнікаў няўлічанай зброі. Гандляроў на рынках абавязалі прадаваць айчыннную прадукцыю. З пачатку года колькасць памерлых беларусаў перавысіла колькасць нарадзіўшыхся на 13,1 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзяржсакратар Д. Керры заявіў, што ў ЗША ёсць запісы размоў расійскіх агентаў на Украіне, якія атрымоўваюць загады з Масквы па захопе там будынкаў улады і міліцыі.

**Бельгія.** Расія падала скаргу на ЕС у Сусветную гандлёвую арганізацыю, які абмежаваў "Газпрам" у доступе да еўрапейскіх трубаправодаў, шанцы на поспех у РФ мізэрныя.

**Расія.** Сацапытанні паказалі, як пацвердзіў гендырэктар ВЦИАМ В. Фралоў, што 63 % расіян супраць таго, каб карміць вялікімі датацыямі Крым, бо правінцыя РФ жыве бедна.

**ЗША.** Усе члены Савета бяспекі ААН, за выключэннем Расіі, падтрымалі Украіну ў правядзенні антытэрарыстычнай аперацыі на сваёй тэрыторыі супраць збройных баевікоў.

**Украіна.** Пасля правалу жэнеўскіх дамоўленасцей СБУ затрымала 25 афіцэраў ГРУ Расіі, у Луганскай вобласці выявілі 1200 сепаратыстаў, яны атрымалі рускія грошы і зброю.

**ЗША.** НАТО, як заявіў намеснік генсакратара арганізацыі Аляксандр Вершбоў, цяпер павінна разглядаць Расію не як надзейнага партнёра, а як небяспечнага праціўніка.

**Расія.** Прэс-сакратар прэзідэнта РФ Д. Пяскоў пацвердзіў, што рашэнне аб анексіі Крыма прымаў толькі адзін Пуцін, канфрактацыя з Захадам нясе вялікую рызыку для эканомікі.

**Польшча.** Перад перамовамі ў Варшаве ўкраінскі "Нафтагаз" адмовіўся прызнаць рахунак "Газпрама" на 11,4 млрд. $ за недабор газу з-за вельмі высокіх цэн у 2013 годзе.

**ЗША.** Перабежчык Э. Сноўдэн, як паведаміла газета New York Times, хоча вярнуцца з РФ на радзіму, наняў вядомага адваката, каб заключыць адпаведную здзелку з Вашынгтонам.

**Англія.** Паліцыя арыштавала кіраўніка партыі Шын Фейн Джэры Адамса за забойства шматдзетнай маці, жыхаркі Белфаста, здзейсненае яе баевікамі IPA ў 1972 годзе.

**Карэя.** Услед за крушэннем пасажырскага марскога парома "Севол" у метро Сеула сутыкнуліся два цягнікі, у выніку здарэння пацярпелі звыш 200 чалавек.

**Расія.** Падчас чарговага выбуху на ваенным складзе боепрыпасаў у Забайкаллі загінула 11, больш 20 чалавек былі паранены, вакол часці бушуюць моцныя лясныя пажары.

**Эстонія.** Пасля прыбыцця ў краіну роты амерыканскіх дэсантнікаў Расія пачала ваенныя вучэнні армейскай авіяцыі Заходняй акругі РФ на эстонска-латвійскай граніцы.

**Кенія.** Услед за парламентам, падтрымаўшым прапановы з месц, прэзідэнт краіны Ухуру Кеніята падпісаў закон, які дазваляе мужчынам мець неабмежаваную колькасць жонак.

**Фінляндыя.** На юніёрскім чэмпіянаце свету па хакеі славакі і немцы пасля пацiскання рук з Расіяй выцерлі іх аб лёд, рускіх там выбілі ў ¼ фіналу, іх у свеце за Крым ненавідзяць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Прэс-служба Пуціна назвала ў ліку патэнцыйных злачынцаў і А. Лукашэнку, бо ён кваліфікуе кіеўскія ўлады як законныя, выступае супраць федэралізацыі Украіны.

**Астравец.** Пасля экспертызы Беларуская АЭС атрымала поўную ліцэнзію на пабудову першага энергаблока атамнай станцыі, пачаўся асноўны этап неабходных работ.

**Салігорск.** Асноўным пакупніком калійных угнаенняў "Беларуськалія" стала Бразілія, з пачатку года пастаўкі пайшлі ў больш чым 50 краін свету, на калій расце попыт.

**Мінск.** Старшыня праўладнай ФПБ Л. Козік недвухсоўна папярэдзіў Крэмль, каб ён і не думаў, што калісьці валодаў тут Паўночна-Заходнім краем, умешваўся ў нашы справы.

**Барысаў.** Падчас рабочай паездкі глава РБ адкрыў сучасны футбольны стадыён, паездзіў на новых аўтамабілях Geely розных мадэляў, назваў іх нядрэннай тэхнікай для беларусаў.

**Смалявічы.** Урад РБ палічыў занадта дарагім кошт 300 мільёнаў долараў, за які кампанія Кітая гатова была ўзвесці 2-ю пасадачна-ўзлётную паласу для Нацыянальнага аэрапорта "Мінск".

**Мінск.** Уступная кампанія ў айчынныя ВНУ, як заявіў міністр адукацыі РБ С. Маскевіч, пройдзе сёлета ў адзін паток адначасова для дзённага і завочнага аддзяленняў.

**Слуцк.** Пасля адстаўкі з пасады дырэктара льнозавода Таісію Камінскую прызначылі на пасаду намесніка, бо няма каму працаваць, яе вінаватасць, што 182 тоны трасты згнілі.

**Мінск.** На корані ўладам Украіны, як заявіў экс-глава парламента РБ, генерал-лейтэнант М. Грыб, трэба было раней знішчаць зародышы сепаратызму, які падтрымлівае Крэмль.

**Вілейка.** Супраць былога старшыні райвыканкама Я. Сініцы завялі крымінальную справу за пабудову дома за дзяржаўны кошт, арыштаваны дырэктар вопытнага лясгаса П. Касяк.

**Рагачоў.** Ля вёскі Новыя Каласы 31-гадовы вясковец ехаў без моташлема на купленым тыдзень назад мапедзе, упаў у жалезабетонную канаву і загінуў на месцы дарожна-транспартнага здарэння.

**Шчучын.** Ноччу ў гарпасёлку Жалудок двое маладых нягоднікаў збілі да паўсмерці 84-гадовую пенсіянерку, забралі ежу, грошай у яе не было, міліцыя затрымала выродкаў.

**Лебяжы.** За 7 гадоў плануюць акупіць будаўніцтва мясцовага шматфукнцыянальнага аквапарка паблізу сталіцы, аднаго з буйнейшых у СНД, з саўнамі і атракцыёнамі.

**Смаргонь.** Медсястра з раённага цэнтра Вікторыя Міганович атрымала карону "Міс Беларусь-2014", паедзе на сусветны конкурс прыгажосці і на тур топмадэлей у Парыжы.

**Мінск.** З улікам няпростых адносін да РФ у свеце рускаму клубу хакейных фанатаў не далі 9 мая правесці "Рускі марш" падчас чэмпіянату свету ў беларускай сталіцы.

## Лукашэнка паабяцаў, што долар на канец года не перавысіць адзнаку ў 11.000



■ Алег Баранаў, «Таварыш.online»

**Насуперак чуткам пра тое, што пасля чэмпіянату свету па хакеі ўлады Беларусі будуць вымушаныя правесці рэзкую дэвальвацыю нацыянальнай валюты, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заяўляе, што гэта няпраўда.**

«У чарговы раз паўтару тое, што заўсёды казаў: дэвальвацыя, абвалы, войны, канфлікты - усё залежыць толькі ад вас. Калі вы гэтага не захочаце, паверце, гэтага ніколі ў Беларусі не адбудзецца. Я вам гарантую. Калі вы гэтага хочаце, так што ж я магу зрабіць? » - Сказаў кіраўнік дзяржавы 9 мая.

«Але ніякай дэвальвацыі мы не плануем », - падкрэсліў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, першыдычна гучаць прапановы правесці разавую дэвальвацыю на 10 %, 20%: « Камусьці добра - экспарцёрам. Але гэта глыток паветра на нейкае імгненне. З іншага боку, гэта ўдарыць па ўсім насельніцтве. Гэта ж прыстойны ўсплёск цэн. І ён потым іншым канцом ударыць па гэтых экспарцёрах. Нам гэта трэба? Нам гэта не трэба».

Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што ў Беларусі з пачатку года адбылася плаўная дэвальвацыя нацыянальнай валюты прыкладна на 7-8 %, і ўлада не прымае спецыяльных мер для ўтрымання курсу беларускага рубля: «Мы ж яго не трымаем ссінелымі рукамі. Навошта ж павялічваць цану на валюту, калі такой неабходнасці сёння няма».

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў Беларусі ёсць дастатковы аб'ём золатавалютных рэзерваў. «Каля $ 5 млрд. мы сёння маем гэтых рэзерваў плюс $ 2,5 млрд, якія мы атрымліваем у гэтым годзе ад Расіі. Нам дастаткова. Але гэта не значыць, што мы гэтыя грошы ўсе выдаткуем на тое, каб утрымліваць валюту», - запэўніў ён.

Прэзідэнт лічыць, што калі да канца года працягнецца плаўная дэвальвацыя беларускага рубля яшчэ на 5-7 % , то нічога страшнага ў гэтым няма. «Нічога страшнага не адбудзецца, і людзі да гэтага прывыкнуць, і мы вас да гэтага падвядзем праз заработную плату», - сказаў кіраўнік дзяржавы.

На яго думку, чуткі пра магчымую дэвальвацыю падаграюе ў грамадстве пэўная катэгорыя людзей, для якіх чым горш у краіне, тым лепш: «Яны так і не зрабілі высновы з украінскіх падзей. Яны не разумеюць, што мала не падасца і ім, калі, не дай бог, дэстабілізуецца абстаноўка. Таму мы не плануем ніякай дэвальвацыі».

Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што ў мінулы раз да таго, калі адбылася разавая дэвальвацыя, ён таксама папярэджваў грамадзян не скупляць валюту і не правакаваць зніжэнне курсу. На яго думку, з тых падзей насельніцтву таксама трэба атрымаць урокі.

Калі ўзяць калькулятар і палічыць, то, па запэўненнях Лукашэнкі, даляр у гэтым годзе нават не дасягне мяжу ў 11.000 рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вобласць разам з яшчэ трыма – Брэсцкай, Гродзенскай і Магілёўскай так і не выйшлі сёлета на абяцаную ўладамі Беларусі сярэднямесячную зарплату 500 долараў.

**Орша.** Міністэрства сельскага харчавання Беларусі дало згоду на стварэнне аграхолдынга ў складзе камбіната хлебапрадуктаў горада і селекцыйна-гібрыднага свінацэнтра "Задняпроўскі".

**Паставы.** Новы сырзавод і мясцовы малочны завод адчуваюць праблемы з сыравінай, бо ў 12 з 15 гаспадарак раёна падзенне надояў, рэалізацыя малака зменшылася на 526 тон.

**Глыбокае.** Да канца года ў недабудаваным за савецкім часам корпусе з'явіцца новы перапрацоўчы цэх мясакамбіната па выпуску каўбас коштам 120 мільярдаў рублёў.

**Віцебск.** За затрымкі выдач зарплат толькі ў 1-м квартале года пакаралі штрафамі 172 кіраўнікоў, да адказнасці прыцягнулі па вобласці 179 юрыдычных суб'ектаў гаспадарання.

**Докшыцы.** Чацвёрты год запар на абласную Дошку гонару лепшых працоўных калектываў занеслі імя Бягомльскага завода "Ветразь", упершыню – мясцовы хлебазавод.

**Полацк.** Міліцыя сумесна з пагранічнікамі выявілі і затрымалі 37-гадовага злачынцу з Грузіі, якога 7 гадоў шукалі ў трох краінах за забойства ў Турцыі і махлярства.

**Віцебск.** Пад раніцу з інтэрната № 7 ветэрынарнай акадэміі эвакуіравалі амаль 700 студэнтаў з-за пажару ў пакоі пасля ўзгарання халадзільніка, раней такі інцыдэнт тут быў у 2010 годзе.

**Наваполацк.** Гарадская друкарня пачала рэалізацыю праекта друку поўнакаляровых газет, першым з 13 друкуемых тут мясцовых выданняў стаў каляровым "Веснік Глыбоччыны".

**Лепель.** За забойства летась з-за грошай тапаром пенсіянеркі, роднай цёці свайго сужыцеля, суд пакараў 16 гадамі турмы маладую ўдаву-п'яніцу, пазбаўленую дзяцей.

**Верхнядзвінск.** Да 55-годдзя сустрэчы ветэранаў РБ, РФ і Латвіі на Кургане Дружбы раёну даручылі ўзвесці часоўню, там будзе пасаджана алея на стыку граніц трох дзяржаў.

**Ноўка.** Мясцовая СШ паблізу Віцебска стала адзінай у Беларусі, дзе пры дапамозе гранта ЕС адкрыўся сучасны планетарый з лічбавым электронным абсталяваннем.

**Полацк.** Сцяг-рэліквію Полацкага кадэцкага вучылішча ўзору 1845 года перадалі ў сербскім горадзе Белая Царква дэлегацыі з Беларусі, адроджанай навучальнай установе.

**Орша.** У мясцовай паліклініцы № 1 пачаўся прыём пацыентаў пры дапамозе папярэдняй электроннай рэгістрацыі праз Інтэрнет і браніравання талонаў да патрэбных урачоў.

**Расоны.** Зборная каманда раёна пераканаўча выйграла III чэмпіянат Віцебскай вобласці па хакеі сярод 12 каманд, за перамогу калектыў з'ездзіў у Мінск на матч Беларусь-ЗША.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Зміцер Лупач

# Грамадскасць выступіла супраць будаўніцтва царквы

**Увёсцы Вайшкуны, што ў Пастаўскім раёне, 10 траўня адбыўся сход жыхароў, на які былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовай улады, сродкаў масавай інфармацыі, эколагі, іншыя зацікаўленыя асобы.**

На павестку дня сходу было вынесена шмат пытанняў, такіх як незаконная высечка дрэў на асабліва ахоўваемай тэрыторыі, браканьерства, вываз і ўборка смецця, экалагічныя праблемы. Але галоўная прычына, па якой склікаўся гэты сход, – пратэст жыхароў супраць будаўніцтва праваслаўнага храма ў вёсцы Станчыкі, што знаходзіцца ў двух кіламетрах ад Вайшкуноў.

На першы погляд, што дрэннага ў тым, што паўстане яшчэ адзін Божы храм? Але гэта толькі на першы погляд. Справа ў тым, што гэтыя дзве вёскі знаходзяцца на беразе ўнікальнага возера Балдук, якое ў сваю чаргу ўваходзіць у групу Блакітных азёр. Гэтая азёрная група, што размешчана на граніцы Віцебскай і Мінскай абласцей, з'яўляецца часткай Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Бераг возера, на якім размешчаныя вёскі Вайшкуны і Станчыкі, з'яўляецца часткай гідралагічнага заказніка "Швакшты". Акрамя прыродаахоўнай функцыі, гэты заказнік выконвае ролю ахоўнай тэрыторыі Нацыянальнага парка.

Возера Балдук размешчана ў катлавіне, склоны якой узвышаюцца над возерам на 25 – 30 метраў, яго плошча 78 гектараў. Само возера знаходзіцца ў Мядзельскім раёне, а яго паўночны бераг – у Пастаўскім. Возера даволі глыбокае, у ім знаходзяцца дзве ўпадзіны глыбінёй 39,7 і 38,1 метра, якія падзеленыя сяміметровым узнясеннем. Вада ў возеры характарызуецца высокай мінералізацыяй і празрыстасцю. Возера ўваходзіць у басейн ракі Страча. Як сцвярджаюць эколагі, поўны абмен вады ў возеры адбываецца больш чым за трыццаць гадоў.

Менавіта апошняя прычына ўяўляе небяспеку таго, што возера вельмі падзвержанае ўздзеянням чалавека, і да яго трэба адносіцца вельмі беражліва.

Мясцовых жыхароў у Вайшкунах і Станчыках засталося вельмі мала, іх можна пералічыць па пальцах. Але гэта месца аблюбавалі мінскія дачнікі, сярод якіх ёсць і эколагі, і мастакі, і архітэктары, і бізнесоўцы. Адзін з іх, Мікалай Раманевіч, і вырашыў стаць фундатарам будучага храма, які выклікаў такую неадназначную рэакцыю жыхароў.

Ініцыятарам правядзення сходу жыхароў выступіў эколаг Ігар Пастухоў. Ён распачаў сход невялікім дакладам, у якім закрануў пытанні незаконнай высечкі дрэў, браканьерства, засмечвання тэрыторыі. Выказаліся па гэтых пытаннях і прадстаўнікі ўлады. Яны заклікалі жыхароў і самім сачыць за парадкам, аб усіх парушэннях паведамляць дзяржаўным органам. Тут цалкам можна пагадзіцца, бо немагчыма за кожным жыхаром прыставіць інспектара або міліцыянера, мы ўсе адказныя за тую зямлю, на якой жывём, і толькі ад нас залежыць, якой яна застанецца нашым нашчадкам. На жаль, шмат хто ў нас яшчэ лічыць, што паведамляць пра правапарушэнні – гэта нешта дрэннае, гэта значыць "стучать", а потым мы дружна абураемся, чаму ў нас няма парадку.




Удзельнікі сходу вырашылі, што на дошцы аб'яў у вёсцы Вайшкуны будуць размешчаныя тэлефоны адпаведных службаў, па якіх можна будзе неадкладна паведаміць пра правапарушэнні.

Сход прыкметна ажывіўся, калі пачалося абмеркаванне будаўніцтва храма. Было бачна, што яўная большасць прысутных супраць гэтага будаўніцтва.

Эколагі Ігар Пастухоў, Таццяна Новікава, іншыя выступоўцы прывялі такія аргументы, як адсутнасць мясцовых праваслаўных жыхароў, блізкасць аб'екта да возера, адлегласць да якога складае 700 метраў. Гэта можа парушыць і без таго хісткую экалагічную раўнавагу на возеры Балдук і прывядзе да непапраўнага забруджвання возера. Па іх меркаванні, будаўніцтва храма на бязлюднай асоба ахоўваемай тэрыторыі задуманае хутчэй як бізнес-праект, а не як культавая ўстанова, якая ў будучым прырасце гаспадарчымі пабудовамі, турыстычнай інфраструктурай. Царква ў нас не абкладваецца падаткам, таму вельмі цяжка прасачыць, куды будуць ісці сродкі ад шматлікіх паломнікаў, якія будуць сюды прыязджаць.

Выступіў на сходзе і ініцыятар будаўніцтва Мікалай Раманевіч. Ён прывёў свае аргументы за будаўніцтва царквы. Ён адзначыў, што "плануецца летняя царква без камунікацый, без каналізацыі, без водазабеспячэння і іншых камунальных збудаванняў за выключэннем электрычнасці. Будынак будзе аднапавярховым, без падвалаў, ніякіх збудаванняў, акрамя храма і невялічкай званіцы не плануецца." Таксама ён прывёў такі аргумент, што ў яго маюцца подпісы мясцовых жыхароў пад хадатайствам аб гэтым будаўніцтве. Прысутныя шмат разоў перапынялі выступоўцу абуральнымі воклічамі, яны запатрабавалі ад яго паказаць гэтыя подпісы. Прыйшлося адправіць за імі сына.

Жыхары вельмі абураліся, што з імі ніхто не параіўся. Выдзяленне ўчастка пад будаўніцтва адбылося ў 2010 годзе, грамадскасць пра гэта даведалася толькі ў 2012 годзе. Грамадскія слуханні па гэтым пытанні адбыліся фармальна, на паперы.

Хацелася б адзначыць, што нягледзячы на абуральныя воклічы, паводзіў бізнесовец сябе спакойна, ён стараўся адказаць на ўсе пытанні ўдзельнікаў сходу. А іх было вельмі шмат – гэта і плошча ўчастка пад будаўніцтва, і вышыня храма, і наколькі вернікаў ён разлічаны. Асабліва шмат прэтэнзій было да месца будаўніцтва: навошта будаваць храм на месцы, дзе амаль няма праваслаўных сталых жыхароў, калі непадалёк знаходзіцца гарадскі пасёлак Лынтупы, дзе праваслаўных шмат, а культавага будынка ў іх няма. На гэта Мікалай Раманевіч прывёў такі аргумент, што ён не супраць будаўніцтва ў Лынтупах, маўляў, шукайце фундатара і будуйце.

Ён прывёў і такі довад, што калі ён састарэе, то яму будзе цяжка дабірацца ў храм за некалькі кіламетраў, што выклікала і абурэнне, і смех у прысутных. Шмат хто як з мясцовых жыхароў, так і дачнікаў прапаноўваў пабудаваць храм у любым іншым месцы, нават насупраць дачы спадара Раманевіча.

Выступіў на сходзе і архітэктар Вадзім Глінік, на дачным участку якога і праходзіў гэты сход. Ён адзначыў, што новы храм не ўпішыцца ў вясковы ландшафт, ды і сам праект не ўлічвае мясцовае дойлідства.

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася дыскусія, але яе вырашыла перапыніць сама прырода, бо нечакана пайшоў дождж. Сход вырашыў стварыць ініцыятыўную групу, якая надалей будзе займацца гэтым пытаннем ад імя зацікаўленых жыхароў. Як адзначыў Ігар Пастухоў: "Мы падрыхтавалі сустрэчнае хадайніцтва, у якім выказваюцца грамадзяне за тое, каб царква была ў зручным месцы для ўсіх канфесій".

Яшчэ спадар Пастухоў адзначыў, што звяртаўся да мітрапаліта Паўла, каб той выказаў сваё меркаванне па гэтым будаўніцтве. Але мітрапаліт адмовіўся ўдзельнічаць у гэтай дыскусіі. Як кажа Ігар Пастухоў: "Уладыка Павел у канцы пісьма напісаў, што спадзяецца, што я Божымі малітвамі змяню сваё стаўленне да гэтага будаўніцтва. Я ўспрыняў гэта як адмову, што вельмі прыкра." Царква, па словах Ігара, мае вялікі аўтарытэт у грамадстве, але ў гісторыі так здаралася, што пад прыкрыццём высокіх ідэалаў часта рабіліся брудныя справы.

Якое з меркаванняў пераможа, пакажа час. Арганізатары сходу спадзяюцца, што праз сродкі масавай інфармацыі тэма набудзе рэзананс у грамадстве. Мы ў сваю чаргу будзем сачыць за сітуацыяй вакол гэтага будаўніцтва, каб трымаць у курсе справы і нашых чытачоў.


Выступоўцы даказваюць немэтазгоднасць будаўніцтва царквы.


Сход у Вайшкунах (Пастаўскі р-н).

# Пётр Хацяновіч: «Хадзіў я з Драздовічам па арэхі»

Уладзімір Скрабатун

**Не так ужо і шмат засталося людзей, якія навочна бачылі і памятаюць сёння слыннага некалі мастака Язэпа Драздовіча. Але і гэтыя людзі ў часы Драздовіча былі малымі дзецьмі. Сярод іх – Пётр Мартынавіч Хацяновіч, 1928 г.нр, жыхар вёскі Юркава. Упершыню Пётр Хацяновіч пазнаёміўся з Драздовічам у 9-гадовым узросце. Быў гэта 1937 год.**




– А ці чуў ты пра Драздовіча, мастак такі быў?— пытае спадар Хацяновіч у аўтара гэтых радкоў, з якім лёс нядаўна звёў у адну палату наваполацкай бальніцы.

***– Чуў! А як жа! 125-гадовы юбілей мастака нядаўна быў. А Вы можа з ім сустракаліся?***

– Сустракаўся!

***– А дзе Вы яго бачылі? Распавядзіце, калі ласка.***

Жылі мы ў вёсцы Дварэц. Паблізу вёска – Шчаўкуны і Замкавая гара. З аднаго боку гары – рака Авута, з іншага – возера Качаноўка: вада чыстая, празрыстая, глядзішся ў яе нібы ў люстэрка.

Драздовіч хадзіў з вёскі ў вёску, з хаты ў хату, спыняўся на тыдзень, маляваў і ішоў далей. Гэтым разам, у 1937 годзе, спыніўся ў нашай хаце.

***–Як ён у Вас кватараваў? На сенавале, у пуні?— удакладняю ў апавядальніка.***

– Не! Жыў па чалавечы, меў свой ложак. А як жа! Чалавек – адукаваны. У Вільні жыў. Моцны мастак! Ён жа і разьбой па дрэве займаўся, розныя статуэткі рабіў.

Дык вось, спыніўся Драздовіч у нашай хаце і мы неўзабаве пайшлі ўдвух па арэхі на Замкавую гару. Арэхаў – мама, родная! Аж сукі гнуцца – не тое, што цяпер! Натрэслі іх, поўныя кішэні набралі.

Драздовіч пахадзіў, пахадзіў па Замкавай гары, агледзеў яе некалькі разоў з розных бакоў, патлумачыў мне дзе што было: валы, сцены і вежы. Знайшоў самы прывабны відарыс, стаяў, доўга глядзеў, думаў, а затым мы пайшлі дадому. Драздовіч павесіў ледзьве не на ўсю сцяну палатно, і пачаў маляваць «Замкавую гару». Але гэта была не проста карціна, а насценны дыван-маляванка. Тады ж Драздовічавы дываны-маляванкі віселі ледзьве не ў кожнай вясковай хаце – ад родных яго Пуняк і аж да Германавічаў і Лужак.

Драздовіч маляваў, а я з братам Мікалаем падышлі – назіраем. Абы ціха: ні гаворкі, ні кашлю, ні шораху!

Перад намі пачала паўставаць чароўная карціна – усё як жывое: і лес, і замак на гары, і рака Авута,



што цякла пад гарой. Моцны мастак!

Як была зорная ноч Драздовіч клікаў мяне і майго брата Мікалая, старэйшага крыху больш на год, глядзець на неба. Мы стаялі ўтрох і глядзелі, а Драздовіч тлумачыў, дзе і якая зорка ёсць. А дужа мы малыя цямілі, што такое Марс, Венера, або Юпіцер.

***– Драздовіч, напэўна, хадзіў у традыцыйным плашчы і капялюшы?—*** пытаю ў суразмоўцы.

– Тады, калі Драздовіч кватараваў у нас, было яшчэ цёпла. Хадзіў ён у белых штанах і белым пінжаку – з простага, льнянога, палатна.

***–Драздовіч цэлы тыдзень маляваў, што далей?***

– Ён паклікаў мяне з братам і пытае, паказваючы на кропку на карціне: “Што вы там бачыце?” Прыгледзіліся, а там – дзед з даўгой сівой барадой у сасонніку, але тулава не бачна. Глядзіць дзед у раку Авуту, а ў вадзе, як у люстэрку, сівая барада адбіваецца.

Скончыў Драздовіч сваю працу і пайшоў далей, да іншай хаты…

Нядоўга мы цешыліся, прыйшлі ў 1939-м саветы на кароткі час, а потым вайна. Уночы — партызаны, удзень – немцы. Каб выжыць, прыходзілася прыстасоўвацца, перахоўваць ежу, зерне, адзенне, часта закопваючы ў зямлю. Баяліся і партызанаў і немцаў. За перахоўванне партызанаў – расстрэл. А партызаны, бывала, сядзелі ў нас і ўдзень. Мы малыя пільнавалі, каб у гэты час, выпадкова, да нас не завіталі нават знаёмыя ці аднавяскоўцы, сустракалі іх на паўдарозе дадому, размаўлялі, загаворвалі, казалі, што дома дарослых – няма. Такім чынам адводзілі бяду ад сваёй роднай хаты.

Схамянуліся мы ўжо пасля вайны, а Драздовічава дывана – няма, не знайшлі. Так знікла назаўсёды нашая рэліквія.

У Мінску дачуліся, што я сустракаўся з Драздовічам, прыязджалі распытвалі, цікавіліся дываном, што ён маляваў для нас… Але ж, дзе ты яго ўжо знойдзеш, вайна была.

***– То можа апішаце вашую вёску Дварэц часоў Язэпа Драздовіча?***

– Наогул, карані маіх продкаў – на Мядзельшчыне. Захацелі яны прыдбаць зямлі ды паехалі, яшчэ да рэвалюцыі, на заробкі ў Амерыку: бацька, дзядзькі і браты. Не ўсе захацелі вяртацца назад. Бацька ж вярнуўся, набыў 20 гектараў зямлі тут, на Глыбоччыне, ля вёскі Дварэц. Бацька цяжка працаваў, зямля дасталася пад лесам: пні, карчы, камяні – усё трэба было прыбраць, давесці да ладу.

Бацька памёр рана – ад запалення мозгу, калі мне было яшчэ пяць гадоў. Засталося нас пры маці трое сыноў і дачка.

Тры класы адвучыўся ў польскай школе. Школа была ў Лісіцах. Гэта цяпер: адзін вучань – адзін настаўнік! А тады, на 60 вучняў – адзін настаўнік! Першыя і другія класы – першая змена, трэція і чацвёртыя – другая змена. Настаўнікам быў Вінцэнты Маюсік з Пазнані. У класе, у куце, стаяла тоўстая арэхавая палка, якую называлі “вуяшэк”, ці па нашаму “дзядзька”. Вуяшэка ўсе баяліся, коса на яго пазіралі, калі заходзілі ў клас, дакранууцца да яго ці схаваць – і думак не было.

Натуральна, вуяшэкам настаўнік лупіў па дупе тых вучняў, якія свавольлі ці кепска вучыліся.

– Pójdź, przynieś wujaszek!– загадваў настаўнік вучню, які завінаваціўся. Лупіў ён па дупе не так ужо і моцна. Аднак, некаторыя, якія ўжо разумелі загадзя, што без выхавання вуяшэкам не абысціся, клалі ў штаны пад дупу сшытак. Падман жа, адразу, пры лупцаванні па сшытку, а не па дупе, выкрываўся. Выдаваў характэрны гук хруста паперы.

– Zdymaj portki!– грозна крычаў настаўнік. Адбывалася грандыёзная лупцоўка, а дома яшчэ і бацька дадасць.

У школе выкладалі Закон Божы. Яго вялі праваслаўны і каталіцкі святары. Аднак у 1938 годзе Закон Божы выкладаў ужо толькі ксёндз і для праваслаўных, і для каталікаў. Лічылася, што ўсе мусяць стаць толькі каталікамі і палякамі.

– Niedowiarki,idźcie dodomu!— казаў здзекліва ксёндз нам праваслаўным пасля заканчэння ўрокаў па Закону Божаму.

У вёсцы Дварэц было 5 хутароў і жыло 35 чалавек, у Шчаўкунах – ці не 200 жыхароў. Сёння ў Шчаўкунах засталася адна жанчына. Адурнець можна, што зрабілася! Ад Дварца не засталося нічога, хтосьці памёр, хтосьці пасля вайны з’ехаў у Польшчу, засталіся ўсяго два чалавекі – я і мой брат Мікалай, які жыве ў Мінску ў сына. Толькі мы і памятаем, як глядзелі на зорнае неба разам з Драздовічам, як шмат арэхаў было на Замкавай гары. Шкада, што бацькавай зямлёй, якая была здабытая цяжкой працай, мы мала пакарысталіся, ці не 20 гадоў толькі. У верасні 1939 года прыйшоў Іван з Усходу і ўвесь свет перавярнуўся.

З 1970 года я жыву ў Юркаве. Цяжка працаваў усё жыццё, чатыры гады адслужыў у войску на Сахаліне ля праліва Лаперуза, працаваў нават у Маскве на Беларускім вакзале – мянялі там рэйкі, зразумела, папрацаваў і на радзіме ў нашым калгасе...

***– Дзякуй за цікавы аповяд! Як Вы думаеце: ці засталіся яшчэ ў вясковых хатах дываны-маляванкі Язэпа Драздовіча?***

– Засталіся!

У такім разе тэма творчасці Язэпа Драздовіча будзе мець працяг на старонках нашай газеты, яна невычэрпная. Будуць і іншыя знаходкі.



Беларускія замкі на малюнках Язэпа Драздовіча. **Мір.**



Беларускія замкі на малюнках Язэпа Драздовіча. **Ліда.**



Язэп Драздовіч. **“Замак над возерам”.** Дыван, 1930-ыя гг.

# Небяспечна купацца ў нецвярозым стане

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

З усталяваннем цёплага надвор'я жыхары і госці нашага горада ў вольны час выязджаюць за горад, каб адпачыць, аднавіць сілы на ўлонні прыроды. Часцяком, знаходзячыся на адпачынку, яны забываюць пра меры бяспекі на вадзе, што прыводзіць да трагічных наступстваў, разводзяць вогнішчы ў пажаранебяспечных месцах займаюцца незаконнай парубкай лесу і лоўляй рыбы, што ператтварае іх і правапарушальнікаў. У гэтай сувязі хацелася б растлумачыць наступнае: зоны адпачынку, лясныя масівы, лужкі, берагі рэк, азёр, пляжы і г.д., з'яўляюцца грамадскімі месцамі падчас адпачынку грамадзянаў. Найболей часта фіксаваныя ў месцы масавага адпачынку грамадзян правапарушэнні: распіванне алкагольных і слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення (арт. 17.3 КоАП РБ) цягне накладанне штрафу ў памеры да 8 базавых велічынь, у выпадку паўторнага здзяйснення на працягу года – ад дзвюх да пятнаццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт; распальванне вогнішчаў у забароненых месцах (арт. 15.58 КоАП РБ) – штраф у памеры да 12 базавых велічынь; забруджванне лесу і іншай драўнянахмызняковай расліннасці грамадзянамі (арт. 15.30 КоАП РБ) – штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

У 2013 годзе на тэрыторыі вобласці ў вадзе загінуў 101 чалавек, у тым ліку 5 чалавек у Глыбоцкім раёне.

Асноўнымі чыннікамі гібелі людзей на водах з'яўляюцца – купанне ў вадаёмах, якія не прызначаныя для гэтых мэтаў, купанне ў нецвярозым стане, бескантрольнасць з боку бацькоў прыводзіць да страты іх дзяцей. Трэба памятаць, што вада не прабачае бяспечнасць.

У пазбяганне няшчасных выпадкаў, страты блізкіх Вам людзей і дзяцей паспрабуйце выконваць наступныя правілы і меры бяспекі на водах:

Небяспечна купацца ў нецвярозым стане, у забароненых і неўсталяваных для гэтага месцах, выходзіць у плаванне на няспраўнай ці неабсталяванай выратавальнымі сродкамі лодцы, сядзець на яе бартах, перасаджвацца з месца на месца ці з адной лодкі ў іншую падчас руху.

Купацца варта не раней, чым праз 1,5-2 гадзіны пасля прыёму ежы.

Тым, хто не ўмее плаваць нельга, карыстацца лодкамі, надзіманымі сродкамі, іншымі прадметамі, не абсталяванымі адмысловымі прыстасаваннямі для плавання.

Нельга купацца ў адзіночку, у цёмны час сутак, пры моцных хвалях.

Не скачыце ў ваду ў месцах з невядомай глыбінёй і рэльефам дна.

Не заплывайце далёка ад берага, разлічвайце свае сілы.

Не пакідайце дзяцей ля вадаёмаў без нагляду.

Не скачыце ў ваду з дамбаў, прыстаняў, катэраў, лодак;

Не падавайце лжывыя сігналы бедства;

Не выкарыстоўвайце для плавання дошкі, бярвенне, надзіманыя матрацы, камеры аўтамашын і іншыя дапаможныя сродкі;

Выкананне ўказаных правілаў выратуе Ваша жыццё і жыццё Вашых блізкіх.

# На пажары ў Докшыцкім раёне загінуў 4-гадовы хлопчык

**Два чалавекі загінулі пры пажары ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці мінулай ноччу.**

Як паведамілі ў МНС Беларусі, 8 мая ў 2.12 ратавальнікам паступіла інфармацыя аб пажары ў жылым доме ў вёсцы Лаці. Праз пяць хвілін ратавальнікі былі на месцы пажару, аднак ужо назіралася адкрытае гарэнне драўлянага дома, адбылося абрушэнне даху і частковае абрушэнне столевага перакрыцця драўлянай гаспадарчай пабудовы (знаходзілася на адлегласці за 5 метраў ад палаючага дома), гарэў аўтамабіль «Хундай-Саната» 1990 года выпуску (знаходзіўся за метр ад пабудовы). Адбыўся выбух газавага балона ўнутры дома.

У доме на падлозе былі знойдзены целы гаспадыніпенсіянеркі і яе ўнука 2010 года нараджэння.

Дзядзька дзіцяці пакінуў палаючую пабудову самастойна. Прычына пажару і ўрон устанаўліваюцца. Версія ўзнікнення пажару — парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання (кароткае замыканне халадзільніка).

*БелаПАН*

# Здай зброю добраахвотна

■ **В.Д. Барыла,**
*старэйшы інспектар па дазваленчай працы ААПП Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 красавіка 2014 г. № 185 "Пра рэгістрацыю не ўлічанага ва ўсталяваным парадку грамадзянскай зброі" праводзяцца мерапрыемствы, накіраваныя на забеспячэнне выяўлення і рэгістрацыю не ўлічанага ва ўсталяваным парадку грамадзянскай зброі, дзейніка рэгістрацыі ў органах унутраных спраў.

" У адпаведнасці з Указам грамадзяне, якія добраахвотна прад'явілі да 1 ліпеня 2014 года для рэгістрацыі змешчаную ў іх валоданні не ўлічаную ва ўсталяваным парадку грамадзянскую зброю (за выключэннем агнястрэльнай зброі з наразным ствалом, агнястрэльнай камбінаванай зброі), дзейнік рэгістрацыі ў органах унутраных спраў, ці якія здалі такую зброю і што адмовіліся ад яе наступнай рэгістрацыі, вызваляюцца ад усталяванай заканадаўчымі актамі адміністрацыйнай адказнасці за незаконныя дзеянні ў стаўленні дадзенай зброі.

Грамадзяне, якія добраахвотна здалі зброю, якая знаходзілася ў іх валоданні і не была ўлічаная ва ўсталяваным парадку, грамадзянскую (уключаючы і агнястрэльную зброю з наразным ствалом, а таксама агнястрэльную камбінаваную зброю), у адносінах якой камісіяй Міністэрства ўнутраных спраў па ўліку, захоўванні, перадачы, рэалізацыі і знішчэнні зброі і боеприпасаў не прынята ва ўсталяваным парадку рашэнне пра далейшае выкарыстанне ці знішчэнне такой зброі, маюць права на яго рэгістрацыю ў адпаведнасці з Указам.

Хацелася б звярнуцца і да тых асобаў, якія валодаюць інфармацыяй пра асоб, якія незаконна захоўваюць зброю, якія займаюцца незаконным паляваннем, і іншай супрацьпраўнай дзейнасцю, якая звязаная са зброяй. Калі Вы валодаеце дадзенай інфармацыяй, то Вы можаце паведаміць пра гэта на "гарачую лінію" Глыбоцкага РАУС, па тэл. 2-27-02, 2-26-82, 2-26-41. маб. МТС 597-21-74. Ананімнасць гарантуецца.

Неабходную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: 2-26-82 (аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС), 597-21-74 (МТС), 314-89-02 (велком), 2-27-02 і 102 (аператыўна-дзяжурная служба Глыбоцкага РАУС), 291-78-19 старэйшы інспектар па дазваленчай працы В.Д. Барыла.

# П'янству - бой!

За чатыры месяцы 2014 года:

Па вобласці да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 399 грамадзян па арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў (самагонкі), паўфабрыкатаў для вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу) і за парушэнне Дэкрэту №11 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.09.2005 года "Пра ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, звароту і рэкламы піва, алкагольнай нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту", канфіскавана 108.902 літра фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі, знішчаны 1 міні-завод, канфіскаваны 61 самагонны апарат.

Па Глыбоцкім раёне: да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 16 грамадзянаў, канфіскавана 16.167 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі і 4 самагонных апараты. 1 чалавек загінуў ад атручвання этылавым алкаголем, у 2013 годзе –5.

*А.І. Гігола, начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*




**Віншуем з юбілеем!**



Ну где нам взять такую песню,
Найти достойные слова,
Чтоб от горячих поздравлений
Кружилась ваша голова.
Чтоб в этот день Вы вспоминали
Не сумму прожитых всех лет.
И о печалях забывали.
Бог с ними, у кого их нет.
Чтоб в этот день Вы помнили
Про то, чем жизнь была светла,
Про все счастливые минуты,
Про все удачные дела.
Так будьте впредь судьбой согреты
И оставайтесь вечно молодой.
Пусть будет долгим ваше бабье лето,
Как вечно небо над землей!

*Калектыў "ВГ"*

## МНС інфармуе

**на 13.05.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 467;
Гібель людзей – 63, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 19;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 339.87 млн. руб.

**Па стане на 1 красавіка 2014 года насельніцтва Беларусі складае 9 466 965 чалавек.**

# Выміранне: Расоншчына стала першым раёнам, дзе засталося менш за 10 тысяч чалавек

Паводле дадзеных Белстата, ад пачатку года гэтая лічба зменшылася амаль на 1200 чалавек, але натуральныя страты (розніца паміж народжанымі і памерлымі) значна большыя. Сітуацыю ўратавалі каля 2500 мігрантаў, якія прыехалі ў краіну за пачатак года.

Колькасць насельніцтва змяншаецца ў абсалютнай большасці рэгіёнаў Беларусі.

Галоўнае выключэнне – Мінск. У сталіцы за першы квартал года натуральны прырост склаў 868 чалавек, агульная колькасць жыхароў перавысіла 1 926 тысяч чалавек.

Апрочтаго, дэмаграфічную сітуацыю ўдалося не пагоршыць толькі ў некалькіх раёнах. Гэта Брэсцкі (+464), Мінскі (+282), Гродзенскі (+274 чалавек), Магілёўскі (+153), Жлобінскі (+106), Мазырскі (+86), Дзяржынскі (+31), Кобрынскі (+19), Маладзечанскі (+6), Кармянскі (+6).

З астатніх 110 раёнаў найгоршая сітуацыя ў Полацкім (-194), Аршанскім (-144) і Шчучынскім (-131) раёнах.

Аднак часам нават нязначных стратаў дастаткова для вымірання вёсак.

Расонскі раён стаў першым у Беларусі, дзе колькасць насельніцтва ўпала ніжэй за 10 тысяч чалавек. 9975 чалавек – гэта гістарычны мінімум за часамі незалежнасці.

Вымпіраюць і іншыя раёны. Напрыклад, у Краснапольскім засталося крыху менш за 10 100 чалавек, у Нараўлянскім і Дрыбінскім – каля 10 800 чалавек.

Такія лічбы ставяць пытанне за мэтазгоднасць існавання такіх адміністрацыйных адзінак і ўтрымання чыноўніцкага апарата.

*Ягор Марціновіч*

# Бязвізавы рэжым паміж Беларуссю і Турцыяй пачынае дзейнічаць 1 чэрвеня

**Міжурадавае пагадненне паміж Беларуссю і Турцыяй аб бязвізавым рэжыме набывае моц 1 чэрвеня. Аб гэтым паведаміў прэс-сакратар беларускага знешнепалітычнага ведамства Дзмітрый Міронпчык 8 мая на брыфінгу ў Мінску.**

"У адпаведнасці з гэтым пагадненнем грамадзяне дзвюх краін атрымаюць права ўязджаць, выязджаць, рухацца транзітам і знаходзіцца на тэрыторыі дзяржавы другога боку без віз на тэрмін, які не перавышае 30 дзён з даты ўезду, пры ўмове, што агульны тэрмін такога знаходжання павінен складаць не больш за 90 дзён на працягу года", — распавёў Мірончык.

Ён падкрэсліў, што бязвізавы рэжым не распаўсюджваецца на паездкі з мэтай вучобы, навуковай дзейнасці, уз'яднання сям'і і пражывання, а таксама працы (за выключэннем дзейнасці па ажыццяўленні перавозак пасажыраў і грузаў).

Мірончык таксама зазначыў, што поўны спіс краін, у якія грамадзяне Беларусі могуць уязджаць без віз, размешчаны на сайце МЗС Беларусі ў раздзеле "Консульскія пытанні/Выезд грамадзян Беларусі за мяжу".

*Т. Каравянкова, БелаПАН.*

